Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



## З Новым 2011 годам!



**Выдавец:** ПП «Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

52 (560) 30 снежня 2010 года.
Кошт свабодны.





# Çàáàðîíà íà âàëþòíàå êðýäûòàâàííå íàñåëüí³öòâà áóäçå äçåéí³÷àöü áåñòýðì³íîâà



**Забарона на валютнае крэдытаванне насельніцтва, уведзеная Нацыянальным банкам на тэрмін з 29 ліпеня 2009 года да 1 студзеня 2011 года, зараз будзе дзейнічаць бестэрмінова.**

Першапачаткова такая мера меркавалася як антыкрызісная і была заклікана зменшыць валютныя рызыкі для насельніцтва ва ўмовах значных ваганняў курсаў. Але з часам у рэальнасць звароту да папулярнага перш валютнага крэдытавання перасталі верыць і банкіры, і крэдытаатрымальнікі. Лішні ціск і на хранічна адмоўнае сальда, і золатавалютныя рэзервы не патрэбны.

Як піша БЕЛТА са спасылкай на прэс-сакратара Нацыянальнага банка Анатоля Драздова, "пастановай № 557 Нацбанк унёс змены ў пастанову ад 14 ліпеня 2009 гады № 105, паводле якіх уводзіцца сталая забарона на крэдытаванне фізічных асоб у замежнай валюце".

Аргументацыя Нацбанка зразумелая: грамадзяне Беларусі атрымліваюць заработную плату ў беларускіх рублях, а з улікам магчымых ваганняў узаемных курсаў замежных валют на аддаленую перспектыву крэдытаванне насельніцтва ў інвалюце мае высокую валютную рызыку і рызыку непагашэння такіх крэдытаў у выпадку павелічэння сум плацяжоў па іх да памераў, якія перавышаюць прыбыткі крэдытаатрымальніка.

Пасля студзеньскай дэвальвацыі 2009 года якраз валютныя крэдыты сталі праблемай для платнікаў з-за рэзка ўзрослых выплат. Пры гэтым пра бестэрміновую забарону гаворка тады не ішла, у Нацбанку сведчылі, што "дадзеная норма носіць часовы характар, гэта значыць будзе дзейнічаць да моманту стабілізацыі сітуацыі ў эканоміцы краіны". Зараз, верагодна, тэрміны стабілізацыі адышлі і пра некалі папулярнае валютнае крэдытаванне можна забыцца.

Ïîëàöê³ ðà¸í

# Ó Ïîëàöêó ïëàíóåööà àäêðûöü õîñï³ñ äëÿ õâîðûõ íà àíêàëàã³÷íûÿ çàõâîðâàíí³

**У 2011 годзе ў Полацку плануецца адкрыць хоспіс для хворых на анкалагічныя захворванні, паведамляе БЕЛТА са спасылкай на спецыялістаў абласнога анкалагічнага дыспансера.**

Гэта будзе трэці ў вобласці хоспіс. Дзве аналагічныя ўстановы ўжо дзейнічаюць у Оршы і ўмястэчку Кастрычніцкі Віцебскага раёна. Аршанскі хоспіс разлічаны на адначасовае знаходжанне 15 пацыентаў, Кастрычніцкі - на 20 месцаў. Мяркуецца, што ў Полацкім хоспісе, які будзе створаны на базе аднаго з лячэбных устаноў горада, адначасова змогуць знаходзіцца 15 пацыентаў. Па разліках спецыялістаў, гэта павінна цалкам закрыць патрэбы вобласці ў хоспісах для анкалагічных хворых.

Па дадзеных на 1 снежня, на ўліку ў абласным анкалагічным дыспансеры знаходзяцца больш за 31 тысячу чалавек (кожны 42-і жыхар вобласці). Тым не менш, статыстыка адзначае зніжэнне смяротнасці ад анкалагічных захворванняў на 2,5 адсоткі.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# Ó ãîñö³ äà ðîäç³÷à Äçåäà Ìàðîçà

■ Кастусь Александровіч

**Адмысловы праект Пастаўскага прыватнага "Цэнтра турыстычных паслуг" "У госці да Зюзі Паазерскага" ўжо даўно лепшы мясцовы брэнд. Зараз ён стаў самым ўдалым нацыянальным і нават міжнародным турыстычным маршрутам.**

У сярэдзіне снежня пачаўся чарговы, шосты па ліку сезон прыёму гасцей на ягонай абноўленай сядзібе паблізу райцэнтра. Сёлета атрымалі вельмі шмат заявак, сярод іх аказаліся просьбы прыняць турыстаў з Расіі, з гарадоў Масквы і Уладзіміра. Раней з казачнымі героямі беларускай міфалогіі пазнаёміся італьянцы, немцы, палякі і нават кітайцы. Каб задаволіць густы наведвальнікаў, у гэтым годзе змянілі сцэнарый тэатралізаванага прадстаўлення і акцёрскую групу, набылі шмат арыгінальных сувеніраў, праводзяць навагоднюю бяспройгрышную латарэю. Час для гасцей пралятае хутка, бо іх спачатку знаёмяць з лепшымі краявідамі і помнікамі мінуўшчыны Пастаўшчыны. На самой сядзібе дарослых і дзяцей таксама чакае шмат сюрпрызаў, бо дзе яшчэ пасярод лесу можна паспрабаваць лепшыя нацыянальныя стравы, сагрэцца ля самавара на прыродзе, пазнаёміцца з народнымі майстрамі. Дарэчы, зімовыя прадстаўленні тут будуць праходзіць і пасля Новага года, і нават вясной.

# Òýëåôîííûÿ ãóòàðê³ ïà Áåëàðóñ³ äëÿ âåòýðàíࢠíà ñâÿòû áóäóöü áÿñïëàòíûì³

■ Алена Дземяшкевіч, БЕЛТА

**РУП "Белтэлекам" у перадсвяточныя і святочныя дні дазволіць удзельнікам і ветэранам Вялікай Айчыннай вайны бясплатныя тэлефонныя званкі ў межах рэспублікі, паведамілі БЕЛТА ў прэс-службе нацыянальнага аператара сувязі.**

Акцыя пачнецца апоўначы 31 снежня 2010 года і будзе доўжыцца да 24.00 гадзін 1 студзеня 2011 года.

Бясплатна патэлефанаваць можна будзе з хатніх тэлефонаў, уладальнікамі якіх з'яўляюцца Героі Савецкага Саюза, поўныя кавалеры ордэна Славы, інваліды і ўдзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, асобы, якія прымалі ўдзел у складзе адмысловых фармаванняў у размініраванні тэрыторый і аб'ектаў пасля вызвалення ад нямецкай акупацыі ў 1943-1945 гадах, асобы, узнагароджаныя ордэнамі і (ці) медалямі СССР за самаадданую працу і бездакорную вайсковую службу ў тыле ў гады ВАВ, асобы, што працавалі на аб'ектах супрацьпаветранай абароны, на будаўніцтве абарончых збудаванняў, марскіх баз, аэрадромаў і іншых ваенных аб'ектах у межах тылавых меж дзейсных франтоў, на прыфрантавых участках жалезных і аўтамабільных дарог, члены экіпажаў судоў транспартнага флота, інтэрнаваных напачатку ВАВ у портах іншых дзяржаў, асобы, якія працавалі на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях горада Ленінграда ў перыяд блакады з 8 верасня 1941 да 27 студзеня 1944 года і ўзнагароджаныя медалем "За абарону Ленінграда", асобы, узнагароджаныя знакам "Жыхару блакаднага Ленінграда", інваліды з дзяцінства з прычыны ранення, кантузіі, калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд ВАВ або з наступствамі ваенных дзеянняў, мужчыны, дасягнуўшыя60 гадоў, жанчыны - 55 гадоў.

Умовы акцыі не распаўсюджваюцца на тэлефонныя гутаркі з абанентамі мабільнай сувязі, пры доступе ў Інтэрнэт і карыстанні платнымі даведкава-інфармацыйнымі службамі.

Дадатковую інфармацыю пра акцыю можна атрымаць па тэлефоне 153."Белтэлекам" - нацыянальны аператар электрасувязі Беларусі. Прадпрыемства пабудавала разгалінаваную сетку тэлекамунікацый, сетка магістральных валаконна-аптычных ліній сувязі з выйсцем на сумежныя дзяржавы. "Белтэлекам" распрацоўвае якасна новыя тэлекамунікацыйныя сэрвісы, забяспечвае перадачу міжгароднага і міжнароднага трафіку, працу наземнай сеткі тэлевізійных і радыёвяшчальных каналаў. Для арганізацыі міжнародных каналаў спадарожнікавай сувязі эксплуатуецца комплекс наземных станцый "Тэлепорт". Абаненцкая база кампаніі - больш за 4 млн. абанентаў стацыянарнай тэлефоннай сувязі, больш за 700 тыс. абанентаў шырокапалоснага доступу ў Інтэрнэт і больш за 200 тыс. абанентаў лічбавага тэлебачання.

Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì www.rp5.ru

| | чацвер 30.12.10 | | | | пятн. 31.12.10 | | | | сб. 01.01.11 | | | | нядз. 02.01.11 | | | | пн.03.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | -7 | -8 | -8 | -11 | -14 | -10 | -6 | -6 | -6 | -5 | -4 | -2 | -4 | -3 | -1 | -2 | -7 | -5 | -3 |
| Ціск, мм | 743 | 743 | 744 | 744 | 744 | 742 | 741 | 741 | 743 | 743 | 740 | 737 | 739 | 739 | 737 | 737 | 741 | 743 | 745 |
| Вільготнасць, % | 94 | 92 | 87 | 88 | 91 | 90 | 89 | 93 | 92 | 92 | 92 | 92 | 94 | 93 | 97 | 98 | 93 | 88 | 88 |
| Вецер м/сек | В 2 | В 2 | З 2 | З 2 | Ю-З 3 | Ю-З 3 | З 4 | З 3 | З 4 | Ю-З 4 | Ю-З 8 | З 6 | З 6 | Ю-З 4 | Ю-З 4 | С-З 2 | С-З 4 | З 4 | Ю-З 5 |
| | | 08:35 | 15:49 | | | 08:35 | 15:50 | | | 08:35 | 15:51 | | | 08:35 | 15:52 | | 08:34 | 15:53 | |
| | | 03:12 | 11:57 | | | 04:36 | 12:25 | | | 05:54 | 13:03 | | | 07:00 | 13:53 | | 07:52 | 14:56 | |

## Äçåíü çà äí¸ì

**Свет чакаў ад Беларусі правядзення свабодных і справядлівых выбараў з роўнымі ўмовамі для кандыдатаў, без арыштаў, з празрыстым і чэсным падлікам галасоў, але ўсё выйшла інакш. На працягу адыходзячага года валавы знешні доўг Беларусі працягваў імкліва расці і дасягнуў ужо амаль 26 млрд. $ (48,8 % ад ВУП), на кожнага жыхара прыходзіцца ўжо 2,7 тыс. долараў знешняй запазычанасці. Як папярэджваюць медыкі, эпідэмія грыпу ў краіне прагназуецца ў студзені-лютым 2011 года. У канцэрне "Газпрам" пацвердзілі, што цана расійскага газу для беларусаў у 1-м квартале пасля Новага года можа вырасці на 17 % - да 230 $.**

# Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

**ЗША.** Федэральная рэзервовая сістэма выдзеліць 600 млрд. $ на праграму дапамогі 15 млн.беспрацоўных, каб знізіць гэтую праблему на працягу 4-5 гадоў да 5-6 %, захаваць беспрацоўным ільготы.

**Бельгія.** Кіраўніцтва ЕС, Еўрапарламента і ЗША не прызнала выбары ў РБ свабоднымі, асудзіла празмернае прымяненне сілы і запатрабавала вызваліць з-за кратаў 7 кандыдатаў.

**Ірландыя.** У рамках эканоміі расходаў дзяржбюджэту краіна пайшла на скарачэнне на 12 % заробкаў прэм'ер-міністру (на 14 тыс. еўра), міністраў і пенсій былых дзяржслужачых.

**Польшча.** Польскае Міністэрства працы значна спрасціла правілы працаўладкавання з 1 студзеня 2011 года для замежных грамадзян, уключаючы беларусаў.

**Мексіка.** Прадстаўнікі 200 краін свету на прайшоўшай у горадзе Канкун міжнароднай канферэнцыі пагадзіліся на абмежаванне выкідаў вуглякіслага газу ў атмасферу планеты.

**Кітай.** Па заказу Беларускай чыгункі на заводзе ў Датуні завяршылі праектаванне 12 новых магутных электравозаў, якія змогуць перавозіць да 9 тысяч тон грузаў кожны.

**КНДР.** Новым генералам арміі на партканферэнцыі кампартыі ППК прызначылі малодшую сястру цяпер моцна хворага "правадыра" нацыі – 64-гадовую Кім Ген Хі.

**Румынія.** Для жыхароў краіны павысіўся пенсійны ўзрост: цяпер па новым законе жанчыны будуць выходзіць на пенсію ў 63 гады, а мужчыны – у 65 гадоў.

**Расія.** У розных раёнах Масквы адбыліся паўторныя сутычкі радыкальнай моладзі на нацыянальнай глебе з міліцыяй, было затрымана больш за 1700 чалавек, многія - з нажамі.

**Венесуэла.** Краіне, моцна пацярпелай ад ліўняў, на працягу 18 месяцаў Беларусь паабяцала аказваць доўгатэрміновую дапамогу, затраты на 1 самалёт туды– 400 тысяч $.

**Егіпет.** Пасля атак акул большасць пляжаў краіны аснасцілі спецыяльнымі зонамі бяспекі для турыстаў, у вадзе з'явіліся загараджальныя сеткі, якія драпежніцам не пераадолець .

**Літва.** Няўдачай завяршыўся першы тэндар па пошуку інвестараў для будаўніцтва новай Літоўскай АЭС коштам каля 6 млрд. $ у горадзе Вісагінесе на мяжы з Беларуссю.

**Ватыкан.** Духоўны кіраўнік каталікаў свету Папа Рымскі Бенедыкт XVI не плануе ў 2011 годзе завітаць у Беларусь, ён наведае з візітамі Бенін, Харватыю, Іспанію і Германію.

**Польшча.** У Варшаве і Познані прайшлі сустрэчы чытачоў з беларускай пісьменніцай Святланай Алексіевіч, іх вельмі ўразіла кніга ў перакладзе "У вайны не жаночы твар".

**Кітай.** Знакамітасцю краіны стала свіння, якая нарадзілася на ферме ў вёсцы толькі з двумя пярэднімі нагамі, але навучылася на іх хадзіць праз месяц трэніровак пры вазе 50 кг.

# Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

**Мінск.** З-за непрадбачанага росту цэн на энерганосьбіты, як заявіў кіраўнік Нацбанка РБ П. Пракаповіч, у 2011 годзе адмоўнае сальда знешняга гандлю пагоршыцца да 6,6 млрд. $.

**Мінск.** Як спрагназаваў А. Лукашэнка, на працягу года, калі не будзе ніякіх катаклізмаў, кошт паслуг ЖКГ для насельніцтва ў Беларусі ўзрасце не больш чым на 5 долараў у месяц.

**Барысаў.** Усяго за паўгадзіны на сучасным хуткасным цягніку бізнес-класа з горада можна будзе дабрацца да Мінска замест цяперашніх 1,5 гадзін.

**Мінск.** У Беларусі, як пацвердзілі ў Мінбудархітэктуры, плануецца адмовіцца ад сістэмы пparticularly паручыцельства перад банкамі пры афармленні жыллёвых крэдытаў пад заклад кватэры.

**Мір.** Пасля 27 гадоў маштабнай рэканструкцыі нарэшце адкрыўся адрэстаўраваны замак XVI стагоддзя і 39 новых экспазіцый. Мір сёлета наведалі 200 тысяч турыстаў.

**Мінск.** Незалежныя сацыёлагі пацвердзілі, што запрошаная кампанія "TNS-Україна" мела "падмочаную" рэпутацыю, раней на яе віцэ-прэм'ер С. Цігіпка падаваў у суд за падман.

**Бабруйск.** Адразу 5 суднаў Дняпроўска-Бярэзінскага прадпрыемства водных шляхоў з-за марозаў скавала лёдам на рацэ Бярэзіна на тэрыторыі раёна, іх трэба сцерагчы да вясны.

**Гомель.** Мясцовы кінапракат з дапамогай гараджан па іх заяўках на сайт у Інтэрнэце сфарміраваў каляндны і навагодні рэпертуар з 5 новых фільмаў, у асноўным камедый.

**Мінск.** Самы аб'ектыўны тэлевядучы РБ Сяргей Дарафееў пашкадаваў, што большасць з яго лепшых студэнтаў, выпускнікоў БДУ, назаўсёды з'ехалі з аўтарытарнай краіны.

**Пінск.** У вясковых магазінах раёна ўвялі продаж прадуктаў харчавання(за выключэннем гарэлкі і тытуню) на 50 тыс. рублёў па пашпартах на "вексель" з адтэрміноўкай аплаты.

**Мінск.** Дырэкцыя МАЗа прадоўжыла перамовы з Венесуэлай аб продажы ёй 25 % акцый завода, на набыццё яго кантрольнага пакета прэтэндуе і расійскі аўтагігант КамАЗ.

**Валожын.** Жыхары раёна даведаліся, штоналета сваю гістарычную радзіму можа наведаць знакаміты ўраджэнец вёскі Вішнёва, цяпер Прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс.

**Мінск.** Да працы са славутым футбольным клубам "Дынама" (Мінск) прыступіў чарговы, 23-ці за 10 гадоў, новы галоўны трэнер, 37-гадовы расіянін Алег Васіленка.

**Клецк.** Міністэрства культуры папрасіла Генпракуратуру РБ распачаць крымінальную справу з-за змены выгляду касцёла-помніка барока 17 стагоддзя, які стаў тут царквой.

**Мінск.** На Каляды ад Палаца спорту да Кастрычніцкай плошчы прайшлі амаль 400 Дзедаў Марозаў тэатралізаваным парадам з запальваннем агеньчыкаў навагодніх ёлак.

# Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

**Віцебск.** Запазычанасць установаў аховы здароўя вобласці за спажытыя медыкаменты перад УП "Фармацыя" ў канцы снежня дасягнула 22 млрд. рублёў.

**Сураж.** На працу без выхадных перайшоў дрэваапрацоўчы цэх мясцовага лясгаса, каб ліквідаваць наступствы прастою з-за спынення паромнай пераправы праз Дзвіну.

**Полацк.** Назіральнік А. Пракапенка на выбарчым участку № 15 зафіксаваў сляды неаднаразовага злачыннага ўскрывання скрыні для датэрміновага галасавання.

**Віцебск.** Толькі ў аграпрамысловым комплексе вобласці не хапае зараз 1,5 тысячы розных спецыялістаў, 17 % цяперашніх кіраўнікоў калгасаў не маюць вышэйшай адукацыі.

**Расоны.** У абуладкаванне райцэнтра вобласць уклала каля 17 млрд. рублёў, аднак раён дапусціў спад прамысловасці– 60 % да ўзроўню 2009 года, не прыцягнуў і $ інвестыцый.

**Віцебск.** Па распараджэнні кіраўніка Віцебшчыны А. Косінца кожныя выхадныя паўсюдна будуць праходзіць "прамыя лініі" начальнікаў вобласці, гарадоў і раёнаў.

**Чашнікі.** Больш за 20 аварыйных і закінутых будынкаў знеслі ў некалі квітнеючай буйной вёсцы Чарэя, каб яны не псавалі выгляд аграгарадка, на які затрацілі 4 млрд. рублёў.

**Шуміліна.** З-за п'янага 22-гадовага калгасніка жывёлавода на пераездзе каля станцыі Старое Сяло пасля сутыкнення з цягніком Полацк-Масква загінуў конь, выпівоха выжыў.

**Віцебск.** На прадпрыемстве "Белвітуніфарм" па кантракце для Іарданіі выпусцілі першую партыю-34 тысячы ўпаковак лекавых прэпаратаў "Аксімал", але фасавалі іх уручную.

**Браслаў.** Жыхар райцэнтра, 23-гадовы мярзотнік, стаў фігурантам крымінальнай справы ў Полацку, дзе ў кафэ ўкраў у пенсіянера куртку, шалік і фотаапарат, але быў затрыманы.

**Полацк.** На беразе Дзвіны аднавілася будаўніцтва вяслярнага цэнтра падрыхтоўкі алімпійскага рэзерву з гасцініцай і кафэ. Здача аб'екта намечана на чэрвень будучага года.

**Гарадок.** Праз пару дзён пасля размовы на савеце прафілактыкі ў сельсавеце ў вёсцы Гуркі з-за курэння нападпітку загінуў з суседкай мужчына, які паўгода назад вярнуўся з ЛПП.

**Віцебск.** Праз суд аднавіўся на працы на гароднінным камбінаце "Ноўка" былы прэтэндэнт у прэзідэнты Сяргей Рыжоў, звольнены за "палітыку" і быццам быза прагул.

**Паставы.** За год пагалоўе кароў на падворках насельніцтва скарацілася яшчэ на 313 галоў– да 2415 рагуль, два сельсаветы з 11– Курапольскі і Навасёлкаўскі–павялічылі закуп малака.

**Наваполацк.** Амаль 30 тысяч бутэлек шампанскага закупілі да навагодніх свят гараджане, на Цэнтральнай плошчы прайшлі шэраг кірмашоў па продажы тавараў са зніжкамі.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

## Лічба нумара

**232700** – столькі чалавек у Рэспубліцы Беларусь, па дадзеных Белстата, размаўляюць дома на беларускай мове. Як паказаў апошні перапіс насельніцтва 2009 года, менавіта беларуская мова родная для 60 % насельніцтва краіны. Аднак існуе парадокс, што карыстаецца ёй, "непрэстыжнай і вясковай", толькі 23 % жыхароў. Дзіўныя рэчы назіраюцца ў нас, незразумелыя тым жа літоўцам, палякам і нават украінцам, не кажучы ўжо пра тое, каб француз ці немец не гаварыў дома на сваёй роднай мове.

Зрэшты, там на кантыненце няма і такіх імклівых тэмпаў скарачэння насельніцтва ў быццам бы "стабільнай і квітнеючай" рэспубліцы, дзе тытульная нацыя здзіўляе свет, што ўсё менш і менш размаўляе па-беларуску. Але маем тое, што маем у выніку сумна вядомага рэферэндума і актыўна праводзімай палітыкі русіфікацыі. Праўда, цяпер на фоне пагаршэння двухбаковых адносін з Расіяй на вышэйшым узроўні афіцыйныя СМІ, як па камандзе, сталі сцвярджаць, наколькі расіяне незадаволены сваім жыццём і якое ў іх дрэннае кіраўніцтва.

А вось у нас відавочны рэгрэс, адкат назад, паколькі працэс беларусізацыі і адраджэння беларускай мовы спынены, большасць народа стала яшчэ больш гаварыць па-руску. Яшчэ 10 гадоў назад было лепш, беларускую мову лічылі роднай 73,7 % грамадзян, а ў штодзённым жыцці тады, у 1999 годзе, яе выкарыстоўвала 36,7 % насельніцтва. Трэба біць трывогу з нагоды такой сумнай тэндэнцыі рэзкага скарачэння беларускіх школ і класаў, а таксама СМІ і кніг на роднай мове. Беларуская мова жыве толькі дзякуючы старэючай і выміраючай вёсцы, а вось у адараваўшайся ад абласцей і глыбінкі па даходах беларускай сталіцы беларускую мову назвалі роднай толькі 35 % мінчан.

Сапраўды, свядомым грамадзянам краіны і лепшым прадстаўнікам творчай інтэлігенцыі балюча і трывожна ад таго, якая бяда звалілася на нас. Яны ведаюць, што пры захаванні існуючых цяпер тэндэнцый ужо праз 20-30 наступных гадоў беларуская мова можа быць выведзена ўвогуле з ужывання, пачуццё самасвядомасці і нацыянальнай годнасці беларусаў можа поўнасцю знікнуць. Галоўнай дзяржаўнай мовай яшчэ ў 1995 годзе стала мова суседняй дзяржавы, а беларуская, скажам праўду, пакрыху вынішчаецца і выцеснена ў поўнай адпаведнасці з тым, што не ўдалося расійскаму царызму раней.

Аднак будзем памятаць пра выказванне таго ж славутага рускага педагога Канстанціна Ушынскага: "Умер язык в устах народа – умер и народ". Пакуль мы будзем ігнараваць галоўнае – родную мову , адукацыю на ёй, навуку, культуру, гістарычную памяць, сваю нацыянальную адметнасць, мы будзем і на перыферыі эканамічных дасягненняў, дабрабыту, нас не будуць паважаць іншыя дзяржавы і народы свету. А пакуль трэба ведаць, што яшчэ 10 гадоў назад беларусаў жыло 10,045 мільёнаў чалавек. Для параўнання, цяпер, па дадзеных перапісу, у Беларусі колькасць насельніцтва скарацілася да 9,503 млн. чалавек.

Іншыя статыстычныя дадзеныя таксама не даюць аптымізму. У краіне за 10 апошніх гадоў амаль на 30 % скарацілася колькасць дзяцей, а падлеткаў ва ўзросце 10-14 гадоў стала менш на 363 тысячы ( у 1,7 разы ! ). Насельніцтва прыбаўляецца толькі ў Мінску, многія імкнуцца асесці ў абласных цэнтрах і найбуйнейшых гарадах, а доля пенсіянераў вырасла за гэты перыяд на 9,3 %. У краіне існуе дыспрапорцыя палоў, на адну тысячу мужчын прыпадае ўжо 1150 жанчын. Яшчэ на 10 % зменшылася за дзве так званыя пяцігодкі доля жанатых мужчын і жанчын.

Трывожна і тое, што назіраецца значны рост смяротнасці мужчын, у тым ліку і ў працаздольным узросце. Сапраўды жахліва, што амаль пятую частку сярод жанчын (18%) складаюць удовы, якіх ужо 810 тысяч, што было раней толькі пасля 2-й сусветнай вайны. Яшчэ 463 тысячы дам разведзены, больш за палову з іх у дзетароднам узросце. Такая дэмаграфічная стагнацыя пацвярджае, што беларусаў становіцца ўсё менш і аднachасова беларуская мова выцеснена са справаводства, школ, яна амаль не гучыць на асноўных каналах Беларускага тэлебачання. Без ажыўлення і адраджэння роднай мовы не дасягнуць нам нічога ў жыцці, такая сітуацыя прыносіць толькі шкоду краіне і яе народу.

# Як Пастаўскі павет ледзь не стаў Нарачанскім

■ **Алесь Адамковіч,**
*г. Вільня.*

**11 лютага 1938 г. адбылося пасяджэнне кіраўніцтва Пастаўскага павета, на якім было пастаноўлена змяніць назву павета Пастаўскі на Нарачанскі.**

Выпіска з пратаколу паседжання павятовай рады ў Паставах, якое адбылося 11 лістапада 1938 года ў Паставах

**1.** Возера Нарач мае самую вялікую водную плошчу сярод закрытых азёр у Польшчы;

**2.** Разам з комплексам суседніх азёраў: Швакшты, Должа, Варанец, Мядзел, Мястра, Баторына–стварае ў павеце маляўнічы ландшафт;

**3.** Зацікаўленасць возерам з кожным разам узрастае як ў краіне, так і па-за яе межамі, што прыводзіць да росту турызму;

**4.** Актыўнасць турыстычнага руху каля возера Нарач наўпрост адбіваецца на фінансавай частцы павету і пачынае ёй надаваць выразны турыстычны характар;

**5.** Сучасная назва павету не мае глыбокай гістарычнай традыцыі і толькі пасля пераносу павятовай сядзібы з Даўгінава ў Паставы ў 1926 годзе Паставы пачалі лічыцца новай сядзібай павятовых улад першай інстанцыі;

**6.** Звязанне назвы павету з вядомым усім возерам Нарач падкрэсліць яго спецыфіку, якая будзе звязана з наднарачанскім турызмам як дамінуючым гаспадарчым элементам у рэгіёне.

**Прынята:**

Звярнуцца да ваяводскага ўрада з тым, каб задаволіў просьбу змены назвы павета "Пастаўскі" на "Нарачанскі".

*Паставы, 17 лютага 1938 г.*

Прынятае рашэнне было накіравана на зацвярджэнне ў ваяводскі ўрад у Вільню.

Пасля яго атрымання ваяводскі ўрад за кансультацыяй звярнуўся ў Дзяржаўны архіў і ва ўніверсітэт Сцяпана Баторыя.

Прафесар універсітэта Сцяпана Баторыя Касцялкоўскі негатыўна адрэагаваў на прапанову змены назвы Пастаўскага павета. У прыватнасці, ён зазначыў:

«а) назва "Пастаўскі павет" мае пэўную гістарычную традыцыю, якая сягае ў XVIII стагоддзе, калі на падставе сеймавага рашэння 1775 г. суды Ашмянскага павета (з-за раскінутасці тэрыторыі) адбываліся ў Паставах і Ашмянах. Таму можна казаць аб існаванні пастаўскай судовай акругі. Назву Пастаўскі ўтрымоўваў (а раней і падцвердзіў тэрытарыяльную пастаўскую судовую акругу) чатырохгадовы Сейм сваёй пастановай «Адмена кадэнцыі земскіх і гарадскіх судоў для некаторых ваяводстваў і паветаў Вялікага Княства Літоўскага».

У адміністрацыйна-тэрытарыяльным значэнні назва "Пастаўскі павет" пэўны час існавала ў канцы XVIII стагоддзя. Таму нельга сказаць, што гэта назва не мае гістарычнай традыцыі, як напісана ў тэксце звароту.

б) На жаль, вельмі часта, без адпаведных матываў і істотных падстаў збіраюцца змяняць назвы, якія ўжо ўсталяліся і прыняты ва ўсеагульным ужытку. Мог бы, канешне, быць надзвычай рэдкі і істотны выпадак, калі сапраўды можна было б змяніць назву павета, якая паходзіць не ад назвы павятовага горада, а ад пэўных фізіяграфічных асаблівасцей, ці радзей–ад фізіяграфічнага аб'екту, які знаходзіцца ў яго межах. Можна гэта параўнаць з такімі назвамі, як "Паморскае ваяводства" ці "Марскі павет", але трэба адзначыць, што назва "Паморскае ваяводства" мае гістарычныя карані (зрэшты, тычыцца ваяводства, а не павету), а назва "Марскі павет" мае фізіяграфічныя асновы (прычым назва гэта паходзіць ад агульнага слова "мора", а не ад уласнага імя аднаго возера, якое знаходзіцца ў межах павета).

в) Пакрыўдзілі б такім чынам і само мястэчка Паставы, якое яшчэ адыграе сваю карту ў будучыні як у палітычным, так і гаспадарчым жыцці.

г) Таксама варта адзначыць і тое, што вясковае насельніцтва, якое ўвогуле разважае вельмі рэалістычнымі катэгорыямі і складае пераважную большасць сярод насельнікаў Пастаўскага павета, адрэагуе на гэту змену скептычна, як на нешта неістотнае, кшталту "панскай фанабэрыі", якая нікому не патрэбная, а ў нечым і смешная.

Звяртаючы ўвагу на вышэйпералічанае, лічу, што змена назвы "Пастаўскі павет" на "Нарачанскі павет" нематываваная і непатрэбная».

22 жніўня 1938 г. разгледзіўшы гэту справу і адказ прафесара Касцялкоўскага, ваяводскі ўрад прыняў наступнае рашэнне: «Згаджаючыся з негатыўнай ацэнкай прафесара ўніверсітэта Сцяпана Баторыя Касцялкоўскага ў справе змены назвы павета Пастаўскі на Нарачанскі ваяводскі аддзел прыняў рашэнне пакінуць старую назву павета.»

**Ад рэдакцыі.** Заўважым аднак, што ў згаданы вышэй перыяд Глыбокае было цэнтрам Дзісненскага павету. Гэтая акалічнасць і сёння прыводзіць да памылак у публікацыях. Нярэдка цэнтрам Дзісненскага павету называецца Дзісна.



Паставы ў 1930-ыя гг.

# Латушка: беларускія замкі – гэта яшчэ адно сведчанне нашых еўрапейскіх каранёў

**Беларусы могуць ганарыцца Мірскім замкам, заявіў сёння на ўрачыстай цырымоніі адкрыцця замкавага комплексу міністр культуры Беларусі Павел Латушка, паведамляе БЕЛТА.**

«Сёння выдатнае надвор'е, якое натхняе падумаць пра тое, як праходзілі рамонтныя працы, і тым, што будзе. Але мы сапраўды ведаем, як гэта ёсць сёння. Вядомыя беларускія гістарычныя асобы з родаў Іллінічаў, Радзівілаў, Святаполк-Мірскіх (яны ўў розныя гады з'яўляліся ўладальнікамі Мірскага замка. - Заўв. БЕЛТА) заклалі падмурак замка, на якім мы змаглі абнавіць гэты помнік архітэктуры, гісторыі і культуры, нацыянальнай славы Беларусі», — сказаў Павел Латушка.

**На тэрыторыі Беларусі было пабудавана 116 замкаў.**

Міністр культуры выказаў падзяку ўсім беларусам, якія дапамагалі складаць экспазіцыі, майстрам, якія ў апошнія месяцы перад адкрыццём замка працавалі ў тры змены, рэстаўратарам, музейным працаўнікам — усім тым, хто спрыяў адкрыццю замкавага комплексу «Мір».

Гэта свята, якое нас аб'ядноўвае. Але свята не можа быць без гасцей, упэўнены Павел Латушка. Ён падзякаваў усім знакамітым гасцям, якія прыбылі на цырымонію адкрыцця Мірскага замка. Звяртаючыся да іх, Павел Латушка адзначыў, што адкрыццё Мірскага замка — агульнае свята, які яшчэ раз падкрэслівае: Беларусь заўсёды была сэрцам Еўропы, цэнтрам еўрапейскай культуры.

Павел Латушка нагадаў, што на тэрыторыі Беларусі было пабудавана 116 замкаў, з іх да нашых дзён захавалася два дзясяткі. «Гэта яшчэ адно сведчанне еўрапейскіх каранёў, культурнага багацця краіны», — сказаў міністр.



Розгалас

# Нас чытаюць і ў Паўднёвай Афрыцы…

■ **Ул. Скрабатун**

Зазваніў тэлефон… Але ў слухайцы – нейкі шум, трэск, потым – цішыня. Паклаў трубку. Аднак "сцэнар" паўтарыўся зноў. Разоў пяць! Падумалася: нехта жартуе ці «здзекуецца». Няхай тэлефонная трубка паляжыць на стале. Досталі!

Праз хвілінаў пятнаццаць паклаў трубку на адпаведнае месца. Зноў – званок! На гэты раз – вынікова!

– Паклічце, калі ласка, да тэлефона Юлю Шарабайка,– кажа мужчынскі голас.

– Няма яе тут,– кажу.

– А што гэта – не газета?

– Газета! Але Юля Шарабайка не мае да яе ніякага дачынення.

– Тады, напэўна, вы – Юля Шарабайка.

– Вы лічыце, што гэта – мой псеўданім? Не! Юля Шарабайка – рэальная асоба! Навучэнка пастаўскага ліцэя, жыхарка Глыбокага.

Усё ішло нібыта да завяршэння незразумелага дыялога. Можна паклаcці тэлефонную трубку. І тут раптам:

– Я – Павел Рацілоўскі. Тэлефаную вам з Паўднёвай Афрыкі. Прачытаў матэрыял Юлі пра медальён Караля Польскага і Вялікага Князя Літоўскага Яна III Сабескага. Хацелася б пагутарыць з ёй прыватна …

– Так! Быў у нашай газеце такі матэрыял. Юля Шарабайка яго і напісала. Казала, што пасля ліцэя збіраецца паступаць на журналістыку. Матэрыял мне, як аматару гісторыі нашага краю, спадабаўся. Паставілі ў газету. Потым ён з'явіўся і на інтэрнэт-сайтах *westki.info* ды *historialis.com.*

І тут імгненна я згадаў змест таго матэрыялу. Рацілоўскі: "У вёсцы Храмыя калісьці пражываў род Рацілоўскіх, якія спрадвеку былі славутымі паварамі каралёў і графаў. За выдатную службу каралі давалі сваім паварам медальёны, якія захоўваліся і перадаваліся ў родзе Рацілоўскіх ад аднаго члена сям'і да другога. Апошні повар рода Рацілоўскіх працаваў у пана Корсака. Ён і рассказаў Адольфу Фадзеевічу Лысёнку гэтую гісторыю. Гэты ж повар захаваў медальён, падораны аднаму з яго продкаў Каралём Польскім і Вялікім Князем Літоўскім Янам III Сабескім. Пасля смерці апошняга з павароў рода Рацілоўскіх медальён быў згублены і толькі праз некаторы час яго знайшлі."
– пісала Юля Шарабайка.

– Нумар тэлефона Юлі я Вам вышлю электроннай поштай,– працягвае аўтар гэтых радкоў. Аднак цікава: Паўднёвая Афрыка! Гэта – Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка?

– Так! – кажа Павел Рацілоўскі.

– А які ў Вас гадзінны пояс?

– А колькі ў вас на на гадзінніку ў Глыбокім?

– 11[15]

– І ў нас.

– Але ж у Вас – іншае зорнае неба! Не такое як у Глыбокім.

– Сапраўды, іншае.

– Можа б Вы напісалі ці распавялі нешта пра сябе і пра род Рацілоўскіх для нашай газеты? Цікава было б нашым чытачам.

– Пасля той вялікай колькасці бруду, якую савецкая ўлада выліла на нашую сям'ю – я не хачу нікому ні пісаць ні даваць інтэрв'ю.

– А як Вы даведаліся нумар майго тэлефона?

– На сайце *westki.info.*

У прынцыпе, на тым нашая размова і скончылася. Будзем спадзявацца, што гэтая гісторыя таксама будзе мець працяг.

**PS:** У інтэрнэце мы знайшлі такую спасылку: ***Ratilovskiy Pavel, director at cccg fishing, Cape Town Area, South Africa.*** Аднак уваход на гэты сайт – толькі для зарэгістраваных карыстальнікаў. Недаступны! Куртатая інфармацыя ў перакладзе кажа: ***Рацілоўскі Павел, дырэктар кампаніі cccg fishing, раён горада Кейптаўн, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка.*** Праўдападобна, кампанія займаецца рыбнай лоўляй (***fishing***). А чым яшчэ займацца ў Кейптаўне, як не рыбнай лоўляй! Горад знаходзіцца ў самым нізе зямнога глобуса, там, дзе мяжуюць два акіяны: Атлантычны і Індыйскі.



Медальён з выяваю Караля Польскага і Вялікага Князя Літоўскага Яна III Сабескага.

***"Дитя мое! – сказал мне один мой дед, умирая, - пришла минута, когда все прошлое передо мной исчезло! Завеса разорвалась, мечты кончились. Я помню только о том небольшом количестве добра, которое успел сделать! Не забывай этих моих последних слов и передай их умирая своим детям"***

*Франциск Родольф Вейес*

# Эцюды аб жыцці і смерці

■ **Фадзей Шымуковіч,**
*педагог-пенсіянер,*
*г. Дзісна.*

Адзін старажытны мудрэц сказаў: для чалавека няма больш цікавага аб'екта, чым сам чалавек. І колькі б самі сябе ні вывучалі, так да канца і не можам зразумець сутнасці гэтага ўнікальнага тварэння прыроды. Аднак гэта ўнікальнае тварэнне падпарадкавана ўсім законам прыроды, як і любы іншы аб'ект: не паспеўшы нарадзіцца, ужо асуджаны на смерць. Мы ў адрозненне ад жывёльнага свету маем два пачаткі: жывёльны – наша цела, і духоўны – душа. Гэта дае магчымасць чалавеку верыць у тое, што жыццё яго вечнае. Памрэ толькі цела, але будзе ўратавана душа. Якім бы цяжкім і складаным ні было жыццё, яно, у адрозненні ад смерці, цудоўнае, і нам у думках хочацца верыць, што мы не знікнем бясследна. І імкненне чалавека як можна далей пражыць на зямлі зразумела і апраўдана. Але з другога боку, чаму ж тады больш за 1200 чалавек у рэспубліцы здзяйсняюць самагубства і добраахвотна адыходзяць з жыцця, часта ў росквіце сілаў. У час пошуку адказу на гэта пытанне ў сваім архіве я наткнуўся на артыкул "Эцюды аб жыцці і смерці" пісьменніка Сяргея Астравога ў газеце "Правда" за 30.11.1990г. Уважліва прачытаўшы артыкул, я прыйшоў да высновы, што адзін з эцюдаў заслугоўвае таго, каб чытачы і сёння задумаліся над праблемай жыцця і смерці. З другога боку, я зразумеў, што лепш за пісьменніка я асвяціць падзеі не змагу, таму вырашыў перапісаць змест у арыгінале. Спадзяюся, што чытачы не абвінавацяць мяне ў плагіяце. Сяргей Астравы апісвае падзеі, якія ён назіраў у Крыме, дзе праводзіў адпачынак.

"Кожную раніцу другі тыдзень я прыходжу да мора. І кожную раніцу ў адзін і той жа час на прыбярэжнай скале з'яўляецца жанчына. Я ўжо прывык да яе пастаяннай дакладнасці. Часцей за ўсё жанчына была адзета ў белую летнюю сукенку. Прыпякала. Гэта быў канец ліпеня. Без дажджоў. Без ветру. І толькі адно мора не баялася гэтай спякоты. На сінім фоне ліпеньскага неба жанчына здавалася анёлам. Роўна ў сем гадзін раніцы жанчына ўзыходзіла на скалу. І роўна ў сем гадзін раніцы з мора падымалася чайка і садзілася каля яе ног. Гэта нагадвала чароўныя забавы з вельмі прыгожых казак. Рыжыя падпаліны на белых кіпенных крылах чайкі як бы саграваліі яе знутры, рабілі яе праўдападобнай. Гэта была, напэўна, адзіная ў свеце чайка, якая дазваляла чалавеку дакрануцца да сябе.

Стары рыбак расказаў мне пра жанчыну. Гісторыя гэта ў свой час узбударажыла ўсё пабярэжжа. Два гады назад, напярэдадні свайго вяселля, патануў вядомы ў гэтых мясцінах плывец. На вачах усіх падняўся ён на знаёмую нам прыбярэжную скалу, каб, адпіхнуўшыся ад самага верху, скокнуць у мора. Сярод людзей была і яна, яго нявеста. Усе ведалі, што скачок гэты прысвячаўся ёй. Калі ён паказаўся на скале, натоўп заапладзіраваў. Потым наступіла цішыня. Сотні вачэй сачылі за кожным яго рухам. Вось ён падняў над галавой рукі, злучыў іх разам і імгненна паляцеў уніз. Лічаныя імгненні аддзялялі яго ад вады. І лічаныя імгненні аддзялялі яго ад смерці. Яшчэ пяць удараў сэрца – і яно разарвецца ад болю. А чалавек усё парыў у паветры. І людзі глядзелі на яго , як на паўбога, а час ужо адлічваў яму апошнія секунды.

Начны шторм палажыў на дно бухты вялізны камень. Вострыя бакі яго былі адшліфаваны морам да кінжальнага бляску. І патрэбна ж было здарыцца так, каб чалавек, які скочыў са скалы ў мора, сустрэў на сваім шляху іменна гэты камень. Смерць наступіла імгненна. І пакуль людзі на набярэжнай з захапленнем глядзелі ў той бок, адкуль вось-вось павінен быў з'явіцца плывец, – ён ужо быў мёртвы.

Першы, хто адчуў нядобрае, была нявеста. З крыкам кінулася яна да мора, але людзі абступілі яе з усіх бакоў, а з лодкі ўжо скакалі ў ваду выратавальнікі. Нічога гэтага яна ўжо не бачыла. Прытомнасць пакінула яе надоўга, і толькі праз паўгода вярнулася яна з бальніцы дадому. Нервовае ўзрушэнне змянілася вялацю і амаль поўнай абыякавасцю да жыцця. Старэйшая сястра, якая жыве ў гэтым горадзе, узяла яе да сябе, старалася ўвесь час знаходзіцца побач з ёй. Урачы казалі, што, калі яе пакінуць адну, можа здарыцца непапраўнае.

Раніца гэтага дня пачалася як звычайна. З-за высокіх гор выкацілася сонца. Да мора пацягнуліся адпачываючыя. Адны спяшаліся заняць свае месца пад сонцам бліжэй да мора, другія ў пошуках музейных каштоўнасцяў шпацыравалі па горадзе. І ўсім ім было невядома, што жанчына, якая толькі што прайшла каля іх, была ўжо далёка за мяжой гэтага дня, гэтага горада, гэтага жыцця. І не было больш у гэтай душы ні болю, ні страху. Збавенне, якое яна сабе прызначыла, павінна здзейсніцца. Толькі б паспець. Толькі б не перашкодзілі людзі. Зараз з булачнай вернецца сястра. Убачыць яе знікненне. Пачнуцца пошукі. Паспешліва азіраючыся, яна старалася схавацца за дамамі, за агароджай.



Сцяжынка, якая вяла на вяршыню скалы, была яшчэ чуць вільготнай ад начной расы. Каменне набірала цяпло і штосьці павольнае і блакітнае адыходзіла ў напрамку мора. Адбываўся той шчаслівы кругаварот, калі вільгаць становіцца аблокамі, а аблокі становяцца морам. Зараз гэта жанчына падыйдзе да самага краю скалы. Там, унізе, вада накатвала на прыбярэжнае каменне, і ў гэтым была якаясьці прыцягальная сіла. Адзін крок – і мора ўжо ніколі нікому цябе не аддасць. Яно ўмее берагчы свае тайны. Нават калі яго аб гэтым не просяць.

Старая разгалістая сасна навісала над морам. Жывая плоць дрэва выдзяляла непаўторны пах, настоены на марской прахалодзе. Жанчына ашчапіла рукамі ствол і заплюшчыла вочы. І ў гэты момант, калі яна ўжо гатова была адштурхнуцца ад каменя, каля ног яе штосьці затрапятала.

Гэта было падобна на містыку. На біблейскае чараўніцтва. Яна адплюшчыла вочы і ўбачыла ў нізкай траве беленькі жывы камочак. Ён перавальваўся з боку на бок, бездапаможна заміраў і ажываў зноў. Адкуль ён тут? Выпаўз з-пад вялікага шэрага каменя і ў сляпой сваёй бездапаможнасці ўткнуўся ёй у ногі? А за ёй ужо была бездань. Крута. Яна падхапіла яго на рукі і далонямі пачула, як глуха і трывожна б'ецца спалоханае сэрца. Тук-тук, тук-тук. І быццам бы ў такт гэтым ударам, гэтаму гукаваму маятніку жыцця з боку ў бок паварочвалася белая галоўка, а тулава было каменна-нерухомым.



Гэта было птушаня, маленькая чайка, якая ніколі не бачыла чалавека. Токі чалавечага цяпла адагрэлі яе душу, яе цела. Заспакоілі яе прыродны страх. І калі яна, прыпаўшы да чалавека, захацела ўзмахнуць крыламі, адразу стала бачна, што адно з іх, правае, перабіта, і кожны яго рух прычыняў птушцы нясцерпны боль. Марскія чайкі любяць віць гнёзды на прыбярэжных скалах. Вось і выпала аднойчы птушанятка з гнязда на востраe каменне. І не падабралі яго ні бацька, ні маці. І пакінулі яго адзін на адзін з гэтым страшным светам. І ў птушак такое бывае. Як у людзей.

Яна пранесла гэту птушку на руках праз увесь горад. Сястра дапамагла ёй асцярожна абмыць чайцы крылы, накласці невялікую драўляную шыну. І вось якая рэч: за ўвесь гэты час жанчына ні разу не ўспомніла пра сябе. Як толькі яна адчула, што іменна ад яе залежыць прадаўжэнне чужога жыцця і што менавіта яна можа стаць ахоўнікам гэтага жыцця або віноўнікам смерці, – у яе ўжо проста не было часу думаць пра сябе. Схаваная пружына, якая трымала ў напрузе кожную клетачку яе цела, як бы распрамілася і аблегчыла душэўны і цялесны боль. І хоць вызваленне ад гэтай болі будзе адбывацца павольна, не адразу, – гэта ўжо здарылася. Усё астатняе будзе залежыць ад чалавека.

Праз некалькі дзён яна прынесла чайку на ранейшае месца. На вяршыні скалы, каля вялікага шэрага каменя, у зеленаватай упадзіне прымасцілася птушынае гняздо. Гэта і было тое самае гняздо, з якога выпала птушаня. Яна вярнула чайку на месца, паставіла побач круглыя баначкі з вадой і кормам і стала павольна спускацца ўніз. Аглянулася. Потым яшчэ раз аглянулася. Два вочкі глядзелі ёй услед.

Кожную раніцу жанчына прыносіла чайцы ваду і корм. Часам падоўгу заседжвалася каля яе, брала на рукі. Нездарма вучоныя кажуць, што чайкі вельмі кемлівыя. Яны нават здольныя адрозніваць людзей па тварах. Так, гэта факт. Яна сама ў гэтым пераканалася. Аднойчы жанчына прывяла да чайкі сваю сястру. Тая ішла па сцяжынцы першай. І як толькі чайка ўбачыла яе – здарыўся сапраўдны перапалох. Яна забілася, закрычала, замахала крыламі. Але калі ўбачыла сваю выратавальніцу, то тут жа заспакоілася. І гэта было так дзіўна і так незвычайна, тым больш што абедзве сястры былі апрануты ў тую раніцу амаль аднолькава.

Напрыканцы другога тыдня чайка паляцела. Калі ў наступны раз жанчына паднялася на вяршыню скалы, там ужо нікога не было. Толькі каля вялікага шэрага каменя бялелі некалькі пярынак. Другі раз мора адабрала ў яе тое, што павінна было належаць ёй. Яна разумела, што птушаня ўсё роўна паляціць, што мора пакліча яго. Гэта павінна было здарыцца. Абавязкова. Але чаму так раптоўна? Так адразу? Толькі белыя пярынкі на бурай жаўтаватай траве.

Жанчына павярнулася спінай да мора і стала спускацца па сцяжынцы ўніз, каб ніколі ўжо больш не вяртацца сюды. І ў гэты момант, калі яна дайшла ўжо амаль да сярэдзіны шляху, з мора вылецела чайка і села каля яе ног. Марскія пырскі ляжалі на белых крылах сотнямі капель. І гэта было так прыгожа, як бывае толькі ў непрыдуманым жыцці, і чым ярчэй у гэтай сонечнай гульні каплі паходзілі на самацветы, тым хутчэй яны памiралі. Сатанінская плата за поспех. Шэрасць жыве даўжэй.

І зноў два вочкі, дзве жывыя пацеркі глядзелі на чалавека. Гэта была тая самая чайка, якая выратавала ад гібелі чалавека. Гэта здарылася ў тую раніцу, калі сам чалавек выратаваў ад гібелі чайку. І тады, менавіта тады, у тую самую раніцу чалавечая спагада паднялася вышэй за асабістыя пакуты, і здарыўся цуд.

Кожную раніцу роўна ў сем гадзін на самым версе скалы з'яўляецца жанчына. З мора вылятае чайка і садзіцца каля яе ног. Марскія кроплі ляжаць на белых крылах тысячамі кропель, прасвечаных сонцам. І гэта так прыгожа, як бывае толькі ў непрыдуманым жыцці, часам неверагодным. Я гэта бачыў. Сам."

***Заканчэнне будзе.***




## Крысціну Вітольдаўну Мацюшонак

**Віншуем з Днём нараджэння!**



День рожденья - прекрасная дата,
Не беда, что уходят года.
Жизнь настолько светла и прекрасна,
Что не стоит грустить никогда.
Желаем здоровья на долгие годы,
Пусть мимо пройдут все печали, невзгоды,
Пусть радостью, счастьем искрятся глаза,
И только от смеха сверкает слеза.

*Калектыў "ВГ"*

## Надзею Скрабатун

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Сегодня, в день рожденья твой,
Желаем сердцем и душой
Здоровья, бодрости и смеха,
Во всех делах твоих успеха!
Примите наши поздравленья,
Частицу нашего тепла,
Желаем крепкого здоровья,
Уюта, счастья и добра.

*Сяброўкі Юля, Наташа, Алеся, Іра і іншыя*

## Зою Іванаўну Рэкуць

**Віншуем з днём нараджэння!**



От всей души желаем счастья,
Здоровья, радости, тепла,
Чтоб стала жизнь ещё прекрасней
И интересней, чем была!
Весёлых дней, событий ярких,
Надежды, веры, красоты,
Пусть станем лучшим из подарков
Осуществление мечты!

*Сяброўка Лена.*

## Надзею Скрабатун

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Милая, нежная, светлая, чистая,
Пусть в этот день, когда ты родилась,
Счастье тебе улыбнется лучистое,
Бед и печалей минует напасть.
Пусть никогда, никогда не кончается
Вера твоя в наступленье весны,
Пусть все мечты и надежды сбываются.
Явью становятся сказки и сны...

*Бацькі, дачка Насця.*

## Надзею Скрабатун

**Віншуем з Днём нараджэння!**



С днем рожденья, дорогая.
Поздравляю от души.
Тост поднять за твое счастье
Мы давно уже спешим.
Пусть уходят все невзгоды
И печали все уйдут,
Только радость тебе, Надя,
Твои годы пусть несут.
Будь веселой и счастливой,
И красивой - как сейчас.
Пусть сопутствует удача
Каждый день и каждый час.

*Сястра Наташа.*

## Юрыя Пілімона

**Віншуем з днём нараджэння!**



Пускай здоровье будет крепким,
А сердце вечно молодым,
Пусть каждый день, когда ты будет светлым
На радость нам и всем родным!
Спешим поздравить с днем рожденья!
Желаем счастья, настроенья,
Успеха, бодрости, удачи,
Здоровья крепкого впридачу.

*Кастусь і Уладзімір*

# Як вызначыць пажар на пачатковай стадыі?

■ **В.В.Завадскі,**
*старэйшы інспектар ІДПН Глыбоцкага РАНС*

**Любы скажа, што лакалізаваць пажар, які толькі-толькі пачынаецца куды прасцей, чым тушыць полымя, што ўжо разгарэлася. Своечасова заўважыць агонь можа любы чалавек. Трэба толькі ведаць асноўныя прыкметы пажару, раяць выратавальнікі. Што вас павінна насцярожыць?**

Калі чуеце:
- гудзенне ў коміне;
- патрэскванне падпаленага дрэва.

Калі адчуваеце:
- пах гарэлай пластмасы, дрэва, гумы ці ізаляцыі;
- пах газу.

Калі бачыце:
- дым;
- невялікае полымя.

Як дзейнічаць, калі ў хаце штосьці загарэлася?

Галоўнае правіла – не панікаваць. Але акрамя спакою, вам неабходна выканаць некалькі важных дзеянняў:
- патэлефанаваць у пажарную аварыйна-выратавальную службу па тэлефоне **101** і паведаміць адрас пажару;
- адключыць электраэнергію ў памяшканні і вывесці дзяцей і пажылых людзей за межы кватэры (калі ў вас задыміўся тэлевізар, яго трэба адключыць ад сеткі і накрыць шчыльнай тканінай);
- апавясціць суседзяў пра надзвычайнае здарэнне і прыняць меры па ліквідацыі агню.

Калі не атрымалася своечасова эвакуявацца:
- у ахопленым агнём памяшканні перамяшчайцеся да выйсця нахіліўшыся ці паўзком – дым заўсёды паднімаецца ўгару і назапашваецца ў столі;
- дыхаць трэба праз вільготную шарсцяную ці баваўняную тканіну;
- ад высокай тэмпературы можна абараніцца, накінуўшы на сябе мокрую коўдру ці плед;
- калі шлях выратавання праз дзверы адрэзаны агнём, шукайце аварыйнае выйсце на балконе, шчыльна зачыніўшы за сабой дзверы.

**Запомніце:** падчас пажару нельга адкрываць вокны – прыток свежага паветра спрыяе працэсу гарэння. Выбіць шкло ў акне можна толькі ў выпадку эвакуацыі праз аконны праём.

**Якую дапамогу аказваць пры апёках?**

Апёкі рознай ступені і болевы шок, які ўзнікае пры гэтым – наступствы пажару, пры якіх важна навучыцца дзейнічаць граматна.
- Па-першае, пры магчымасці трэба ўвесці пацярпеламу абязбольвальны сродак;
- абавязкова накласці асептычную павязку на абпаленую паверхню ці прыкрыць яе стэрыльнай прасцінай;
- забяспечыць нерухомасць пацярпелых органаў падчас транспартавання ў стацыянар. Такая імабілізацыя дапаможа папярэдзіць дадатковае пашкоджанне тканін і развіццё болевага шоку.



**Тэлефон даверу ўстановы «Віцебскае абласное ўпраўленне МНС Рэспублікі Беларусь» 8-0212-47-78-16**

**МНС інфармуе**
на 27.12.2010.

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 1480;
Гібель людзей – 238 з іх дзяцей -1;
Урон – 3 112 600 000 руб.,
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў-70;
Гібель людзей – 8, з іх дзяцей няма;
Урон – 362 042 203 руб.

## У Літву за 20 еўра

Палата прадстаўнікоў ратыфікавала пагадненне з Літвой пра ўзаемныя паездкі жыхароў памежных раёнаў.

У памежную зону — 30 кіламетраў паабапал мяжы — трапляюць Гародня, Ліда, Вільня, Друскенікі.

Жыхары памежных тэрыторыяў будуць атрымліваць адмысловыя бланкі дазволу, якія будуць дзейнічаць 1—5 гадоў.

Паводле гэтых дакументаў, за мяжой можна будзе знаходзіцца да 90 дзён за паўгода. Выязджаць за памежную зону будзе забаронена.

Намеснік міністра замежных спраў Валеры Варанецкі заявіў, што ў гэтага пагаднення, акрамя станоўчых, могуць быць і адмоўныя наступствы: «павелічэнне чэргаў у пунктах пропуску і ўзмацненне чаўночнага гандлю».

*Уладзімір Глод*

## Мацюшонак Крысціну Вітольдаўну

**Дарагая наша мамачка!**

Шчыра віншуем цябе з днём народзінаў. Жадаем, каб дома панаваў лад і дабрабыт, жаданні супадалі з магчымасцямі, каб усё ў тваім жыцці было своечасова, новы год прынёс толькі станоўчыя эмоцыі, а мы пастараемся атуліць цябе сваёй любоўю.

*Дзеці і ўнукі.*

## Надзею Скрабатун

**Віншуем з Днём нараджэння!**



Всегда и грустно, и приятно
Свой день рожденья отмечать:
Уходят годы безвозвратно,
Их только успевай считать.
Но время, будто бы теченье,
Ничто не в силах удержать.
Тебе сегодня в день рожденья
Хотим мы счастья пожелать,
Удачи, радости, успеха,
Здоровой быть, беды не знать,
Преграды в жизни и помехи
Легко и быстро устранять,
Побольше смеха, меньше грусти -
И никогда не унывать.
Пусть будет все, что в жизни нужно,
Чем жизнь бывает хороша:
Любовь, здоровье, верность, дружба
И вечно юная душа.

*Калектыў "ВГ"*

